Ленінскі камсамол—першы з першых на фронце сацыялістычнага будаўніцтва






# Чырвоная Беларусь

1931

СТУДЗЕНЬ

2

# ЗЬМЕСТ:



Вокладка САЛАВЕЙЧЫКА „НЕПЕРАМОЖНЫ КАМСАМОЛ".

пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# Чырвоная Беларусь 2

АДРАС РЭДАКЦЫІ: САВЕЦКАЯ, 59 ТЭЛ. № 17—09





СТУДЗЕНЬ 1931





Моладзь актыўна ўдзельнічае у будаўніцтве СССР



# ПАРАСЯ

Малюнкі Бразэра

Апавяданьне Міхася Зарэцкаг

ГАЛОЎНЫ герой гэтага апавяданьня—Марына Карпава Перагуд, грамадзянка вёскі Парэнджы, сябра колгасу „Сьцяг Перамогі“ — мела ў жыцьці сваім мала выдатнага, калі ня лічыць трох здарэньняў, якія, мабыць, у нейкай меры вылучаюць яе з агульнае грамады жанчын памянёнае вёскі.

Першае здарэньне напаткала Марыну, калі яна была яшчэ Марынка і нават ня ўмела хадзіць: тады ёй, пакінутай без дагляду бабылькаю-маткай, рабая суседава сьвіньня пажавала была мезіны пальчык. Яго потым старанна лячылі ўсімі выпрабаванымі сродкамі: прыкладалі павучыньне, курылі портам, прысыпалі чырваточынай, чыстай зямелькай. А скончыў лячэньне мясцовы лекар, адняўшы мезіны пальчык разам з выразна азначанаю гангрэнай.

Марынка ня помніла гэтага выпадку, але ў яе на доўгі час асталося было інстынктыўнае пачуцьцё страху і недавер'я да мілых, з выгляду такіх дабрадушных і ласкавых дзюшак. Гэтае пачуцьцё зьнікла толькі тады, як паступіла Марына (ужо Марына, а не Марынка) на службу да добрага, заможнага, усімі паважанага гаспадара Язэпа Шпулькі. А як пачаў жыць з ёй (праўда, што не па закону, але сумленна і з любасьцю) шпулькаў сын, у яе нават зьявілася да дзюшак цёплая гаспадарская прыязнасьць, і яна ўжо з чыста сваяцкаю ласкай чухала іх тлустыя цяжкія бакі.

На гэтым этапе спасьцігнула Марыну другое выдатнае ў яе жыцьці здарэньне: Шпулька з сынам нарэшце дапалі таго патрэбнага закону і—прагналі Марыну.

Ідучы ў сьвет, Марына доўга плакала горкімі сьлязьмі, а пасьля кінула плакаць, сашчаміла зубы, сказала:

— Сьвіньні!

І шчыльней захінула ў палу прыжытае з Шпулькавым сынам дзіця.

Што да трэцяга здарэньня, дык яно можа прытрапіцца ў жыцьці кожнай жанчыны, якая ў балючай журбе прагне якога-небудзь, хоць маленькага, хоць скупога зусім спацяшэньня. Адным словам—апрача бялявага Сымонкі, у Марыны зьявілася яшчэ чарнявая Манька.

Вось тут і ўсё выдатнае ў мінулым жыцьці Марыны Карпавай Перагуд, грамадзянкі вёскі Парэнджы, сябра колгасу „Сьцяг Перамогі“.

---

Бадай штодня ўраньні, калі ўсе насельнікі сьвінчага царства, чакаючы першае порцыі сьвежае паранкі, узьнімалі дружны вясёлы скогат (ніхто так у смак не паскаголіць, як здаровая галодная сьвіньня), — у гэтую пару, зазвычай, ідучы на працу, заходзіў сюды старшыня колгасу Нічыпар Крук. Марына Карпава Перагуд сустракала яго прыблізна з такім пачуцьцём, з якім спраўны камандзір батальёну сустракае ў даручанай яму часьці камандзіра палка. Яна прымала заклапочана-строгі выгляд, яшчэ вышэй і ямчэй падтыкала саматканую спадніцу і з памагачымі сваімі гаварыла ціха, але з адпаведным націскам.

Старшыня Нічыпар Крук лічыў колгасны сьвінушнік за аснову далейшага росквіту ўсяе колгаснае гаспадаркі — Марына адчувала гэта, была гэтым надзвычайна здаволена і гатова была нямаведама што зрабіць, абы спраўдзіць ускладзенае на яе грамадзкае давер'е.

Сьвіньні, не перастаючы скаголіць, праводзілі іх пачцівымі, але разам з тым і хітраватымі позіркамі. Іншыя цяжка ўзьнімаліся на ногі, іншыя ўскаквалі перадам на дзьверы свайго катушка, высувалі ў шчэлачку рыла і вішчэлі з асаблівай, нават лісьлівай троху, стараннасьцю.

Падыходзячы да канца сьвінушніка, Нічыпар Крук сунімаў ход і гаварыў расьцяжліва, з лятуценнай усьмешкай:

— А ну-тку, як наш экспэрымэнтальны?

І яны колькі хвілін стаялі перад маленькім катушком, дзе мітусіўся, як срэбная плотачка ў чыстай вадзе, маленькі, беленькі, кірпаценькі парсючок: яго гадавалі па асаблівай мэтодзе, вынайдзенай мясцовым аграномам.

Памацаўшы на разьвітаньне мокры парсючкоў пятачок, Нічыпар Крук, здаволены, выходзіў з сьвінушніка. Марына праводзіла яго, пасьля зноў варочалася да свайго аблюбенца і, занядбаўшы ўсю сваю камандзірскую строгасьць, доўга глядзела на яго з цёплым матчынскім замілаваньнем.

А то дык залучаў у колгасны сьвінушнік сярэдняга веку ўдавец, жыхар тэй-жа вёскі Парэнджы Хомачка Гэрцык. Ён спачатку чмыхаў троху сваім тоненькім, падхутраванымі рудымі вусікамі, носам, адылі зухавата запальваў папяросу (папяросу, ня інaчай!) і падыходзіў да Марыны абсолютна, як кавалер.

Хомачку Марына сустракала з большай інтымнасьцю. Яна выпускала з катуха якога-небудзь найбольш спакойнага вяпрука, клала яго на бок і пяшчотна гладзіла яго ружовы жывот кокетліва ўнікаючы Хомачкавага позіраў. Хомачка з жывым апэтытам узіраўся ў пышныя кумпякі вяпрука, і з гэткім-жа апэтытам пераводзіў зірк на яшчэ досыць сьвежую фігуру Марыны. Пад левым вусікам у яго трымцела вясёленькая ўсьмешачка — ён неўзаметку — гусачком — падступіў да Марыны і асьцярожна, нібы баяўся, каб не апячыся, лэпаў яе па баку.

Марына адпіхала яго локцем без асаблівае злосьці.



... і падыходзіў да Марыны абсолютна, як кавалер.

Бялявы Сымонка часам цікавіўся:

— Мамка! Гэта нашыя дзюшкі?

— Нашыя, дзеткі, колгасныя.

— Усіхныя?

— Усіхныя, дзеткі.

Ён на момант задумляўся.

— І дзядзькавага Сьцёпкі?

— І дзядзькавага Сьцёпкі.

— І Волькі дзядзькавае?

— І Волькі.

— І Петрыка Грышчанкавых?

— І Петрыка.

— І Аўгена Дразда?

— І Аўгена.

Сымонка зноў задумляўся і потым пытаўся ўжо з відавочным сумненьнем:

— І сьпірмінтальны ўсіхны?

— Усіхны.

Тут Сымонка ўжо задумляўся глыбей і думаў датуль, пакуль не знаходзіў формулу азначэньня сваеасаблівае блізкасьці да „сьпірмінтальнага“:

— А толькі я памагаю табе даглядаць яго. Праўда, мамка?

— Праўда, сынок, праўда, любы...

І бялявы Сымонка канчаў гутарку агульнай заўвагай:

— Я люблю дзюшак. Дзюшкі добрыя...

Марына пагадліва ўсьміхалася і неўзаметку кідала погляд на сваю левую куксу.

Па-праўдзе, гэтая кукса ўжо ані-ні не засмучае Марыну. Яна нават дае ёй нейкае дзівоснае заспакаеньне.

Так глядзіць на лёгкую драпінку на сваім целе чалавек, які выбавіўся з сьмяротнае небясьпекі.

---

Ну, ці-ж гэта старая жанчына—у трыццаць пяць год? Іншая каторая, дайце рады, яшчэ такога палу запаліць, што і дзяўчына таго не дакажа!

А чым дрэнны, скажам, хоць і паджылы троху, але зусім дзябёлы яшчэ ўдавец Хомачка Гэрцык?

Марына нікому ня кажа пра гэта, але ў тую часіну, як прыходзіць да яе Хомачка Гэрцык, і як потым ён ласым вокам азірае яе круглявую фігуру, яна адчувае ўсё-ткі хоць мо' і ня зусім бурную (дзе там!), але досыць вострую і салодкую бабскую непакойнасьць. І нават, шчыра сказаўшы, яна сама чакае, калі ён, нарэшце, падкрадзецца да яе і раптам праявіць сваю асьцярожную мужчынскую ласку.

Дый што там? Дзеці дарослыя, а ў яго і зусім не асталося нічога ад першае жонкі. Адным словам—у вольную часам гадзіну, адыйшоўшыся ад абыдзеннага тлуму, чаму не падумаць цішком пра можа і дурную, але-ж зусім беззаваднаю ўцеху!

Так вось і падышло. Як прышоў быў неяк пад вечар да Марыны Хомачка Гэрцык ды йшчэ з сваім сябруком Арсенам Даўгім, ды йшчэ абое вясёлыя, пад невялічкай чаркай—Марына сэрцам пачула, што гэта ўжо нібы тыя даўнейшыя заручыны,—і радасна здрыганулася.

...Але-ж трапіцца часам такое ў жыцьці, што во-во ўжо, здаецца, зьвяжаш, скруціш каляныя пруткія галіны, аж раптам—трах?—парвалася лычка, і паляцелі куды-каторая...

Мужчыны паставілі на стол паўлітра. Тады Марына схапянулася, што ня мае чаго закусіць і хацела ўжо бегчы куду пазычаць, але Хомачка суняў яе вялічна-шырокім жэстам, разам з тым управіўшыся ёмка падміргнуць Арсену.

— Наша гарэлка, дык і наша закусь. Мы самі сабе гаспадары! Праз дзесяць хвілін я буду тут.

І ён вышаў. Усьлед яму Арсен (змова была ў іх, ня йначай!) паслаў вельмі загадкавы сказ:

— І жораў нізка, і стрэльба блізка...

Ды хітра-прахітра ўсьміхнуўся.

Марына была ўжо занепакоілася, адылі ўсьміхнулася сама сабе (можа жарт які надумалі?) і завяла з гасьцём вясёлую гутарку.

І вось, па-праўдзе, праз дзесяць хвілін, ня болей, гонкім махам расчыняюцца дзьверы, уваходзіць вясёлы, давольны сваёй удачай, Хомачка, і ўрачыста, як рыцар перад сваёй дамай, кладзе перад Марынай яшчэ цёпленькага зусім парася.

Вось тут акурат і парвалася лычка...

У гэтым беленькім сыценькім парасяці, якое шырока, нібы сьмяючыся, шчэрыла белыя малочныя зубкі, Марына пазнала свайго аблюбенца, свайго пястуна—„экспэрымэнтальнага“ парсючка.

Яна аслупянела. Усё, што было ў жыцьці ў яе: і гордая задаволенасьць працы, і адказнасьць перад колектывам, і радасьць



...І з сакавітай выразнасьцю адчыкрыжыла:
— Сьвіньня!

новага бязгорнага існаваньня,—усё яно неяк несьвядома злучылася было для яе ў гэтым маленькім парасяці. І ёй здалося цяпер, што, забіўшы парася, Хомачка хацеў адабраць у яе ўсё тое, чым урасла яна—бабылка, бяздомніца—у людзкую працоўную грамаду.

Яна шукала слоў, каб неяк выказаць сваё пачуцьцё, і знайшла толькі адно, Сымонкава:

— Гэта—усіхнае... усіхнае...

Хомачка бязглузда пілаваў п'янаватымі вачмі і, фігурна водзячы рукой у паветры, тлумачыў:

— Гэта жарт, Марына Карпаўна, просты жарт... Я адкуплю, канечна... Я заўтра сваё прынясу... Бязумоўна... Мы самі сабе гаспадары, Марына Карпаўна...

Тады Марына Карпаўна падышла да яго—страшная ў сваёй раптоўнай злосьці, і з сакавітай выразнасьцю адчыкрыжыла:

— Сьвіньня!

І нават ня трэба было кідаць ёй адпаведнага позірку ў качарэжнік, каб Хомачка і так зразумеў, што яго жаніхоўскі візыт скончаны.

---

Ну, ці-ж гэта старая жанчына—у трыццаць пяць год? Іншая каторая, дайце рады, яшчэ такога палу запаліць, што і дзяўчына таго не дакажа!

...Але ад тэй пары сярэдняга веку ўдавец Хомачка Гэрцык ў колгасны сьвінушнік не патыкаўся.




# IX зьезд ЛКСМ

У студзені 1931 г. у Маскве працаваў IX зьезд авангарду комуністычнае моладзі, маладых змагароў за соцыялізм, змагароў і франтавікоў вялікага наступленьня на клясавага ворага, за сапраўдныя інтарэсы рабочае клясы, Зьезд Ленінскага Комуністычнага Саюзу Моладзі, які адважна ідзе наперад пад выпрабаваным кіраўніцтвам Ленінскага ЦК УсеКП(б).

Два з паловай гады, якія мінулі ад VIII Усесаюзнага зьезду комсамолу да IX зьезду, былі рашаючымі гадамі для посьпеху справы рэволюцыі, справы, за якую змагаліся і гінулі на працягу дзесяцігодзьдзяў сотні тысяч людзей, лепшых людзей рабочае клясы. Мінулыя гады былі гадамі вялікага пералому, калі ўся краіна пад кіраўніцтвам компартыі дасягнула вялізарнейшых посьпехаў на фронце індустрыялізацыі і колектывізацыі.

І ў гэтым слаўным змаганьні на франтох пабудовы соцыялізму пачэснае месца заваяваў сабе Ленінскі Комсамол, які, як і заўсёды, быў першым сярод першых змагароў і будаўнікоў. Тав. Л. М. Кагановіч, які выступаў на зьезьдзе з політычным дакладам ад імя ЦК УсеКП(б), прыводзіў багата прыкладаў гэроічнае барацьбы комсамолу на шматлікіх франтох соцыялістычнага будаўніцтва Звыш 250 тысяч комсамольцаў былі кінуты за апошнія год—паўтара ў шахты, у лясы, на будаўніцтва трактарнага волату і нават далёкі Сахалін. Усюды, дзе пагражаў прарыў, дзе трэ' было штурмаваць нядбальства і адсталасьць, комсамол пасылаў сваіх членаў, каб з найменшай затратай сіл і сродкаў вырашыць пастаўленую задачу. І комсомол з гонарам заўсёды выконваў даручэньні.

Комсамол быў верным памоцнікам партыі ня толькі на гаспадарчым фронце—комсамол бязьлітасна змагаўся са ўсімі опортуністымі за генэральную лінію партыі. Ні кулацкая агентура ў асобе правых опортуністаў, ні іх „левыя" хаўрусьнікі не знайшлі сабе падтрыманьня ў шэрагах комсамолу. Адзінства бальшавіцкіх шэрагаў маладога пакаленьня рэволюцыі і старой бальшавіцкай гвардыі—непарушальна.

Комсамол зьяўляецца шэфам нашага марскога флёту, шэфам электрыфікацыі, шэфам усеагульнага навучаньня. Сотнямі тысяч ніцяй комсамол зьвязаны са справай абароны нашае краіны, самымі лепшымі пачынаньнямі, якія маюць мэтай перабудаваць на новы лад усю нашую краіну. На сваім IX зьезьдзе комсамол узяў шэфства над паветраным флётам. Сотні і тысячы комсамольцаў, якія пойдуць у паветраны флёт, яшчэ больш узмацняць яго і абароназдольнасьць усяе краіны саветаў.

І тую моналітнасьць, якую ленінскі комсамол паказаў на сваім IX Усесаюзным зьезьдзе, тое разуменьне задач соцыялістычнага будаўніцтва, якое выявілі ўсе дэлегацыі зьезду, зьяўляюцца лепшай зарукай таго, што комсамол і надалей у надыходзячых баёх за соцыялізм зойме адно з першых месц, як верны, адданы і непасрэдны памоцнік ленінскай комуністычнай партыі.

**НА ЗАВОДЗЕ** прынялі ў партыю



# Барацьба з нацыянал-дэмократычнымі лыцарамі ў літаратуры

Рыгор Мурашка

Першыя факты наяўнай барацьбы з нацыянал-дэмократызмам у беларускай літаратуры належаць да таго часу, калі на тэрыторыі Савецкай Беларусі аціхлі гукі грамадзянскай вайны і калі адначасна з ліквідацыяй рэштак белых банд пачалося аднаўленьне разбураных наймітамі сусьветнага імпэрыялізму заводаў і фабрык, папаленых вёсак.

Першыя авангардныя баі разгарнуліся вакол поэмы М. Чарота „Босыя на вогнішчы“ ў 1922 годзе. Група беларускіх культурных дзеячоў, сярод якіх пагубляліся і некаторыя комуністыя, сьцьвярджала, што гэтая поэма ня мае нічога агульнага з пролетарскай літаратурай, што „Босыя на вогнішчы“ гэта люмпэн-пролетарыят, басякі, якія пайшлі за рэволюцыяй з мэтаю нажывы і што поэма ні больш і ня менш як перапявае „Дванаццаць“ рускага поэта А. Блока. Аднак гэтай групе не ўдалося зьняславіць „Босых на вогнішчы“ і скомпромэтаваць самага аўтара, як пролетарскага поэта. А гэтага ім надзвычайна хацелася, бо трэ' было давесьці, што няма і ня можа быць пролетарскай літаратуры на Беларусі, якая хоць і пад савецкім сьцягам, але няўхільна мусіць перарадзіцца, але павінна адваяваць, як лятуцелі ўсе нацыянал-дэмократы і асабліва былыя радаўцы з белага дому, сваю часова страчаную незалежнасьць. Шэраг выдатных комуністых—адказных работнікаў сталі ў абарону „Босых на вогнішчы“. Ацэнка, даная поэме В. Кнорыным, як твору, ад якога беларуская пролетарская літаратура пойдзе далей шпаркімі крокамі, засталася за ёю і да сёньнешняга дня.

Першае паражэньне аднак не адбіла ахвоты ў нацыянал-дэмократаў, і яны адышлі на свае закрытыя позыцыі, замаскаваныя лёяльнасьцю ў адносінах савецкага ладу ў агуле і Савецкай Беларусі ў прыватнасьці. Гэтае паражэньне стала ім вурокам і штурхнула да новых падкопных форм работы ў галіне ідэолёгіі, і асабліва ў галіне літаратуры і літаратурнай крытыкі. Калі ў 1923 г. заснавалася аб'яднаньне маладых рэволюцыйных пісьменьнікаў „Маладняк“, дык яны спрабуюць стварыць у ім свой апорны пункт. Праз індывідуальную апрацоўку паасобных пісьменьнікаў з Маладняка, часам вельмі нядрэнных рэволюцыйных пісьменьнікаў у пачатку свае літаратурнае чыннасьці, паступова яны заражаюць іх нявер'ем у правільнае вырашэньне комуністычнай партыяй нацыянальнага пытаньня, атручваюць сьмяртэльнай атрутай нацыянал-дэмократызму. Ізусім невыпадковым стаўся адыход ад Маладняка групы пісьменьнікаў і поэтаў, якія ўтварылі організацыю. „Узвышша“. Байкамі зьяўляюцца ўсе тыя сьцьверджаньні новасьпечаных лідэраў Узвышша, што іх разыходзіны з Маладняком тлумачацца нібыта толькі нязгодаю ў некаторых організацыйных пытаньнях; гэта ўжо няцяжка ўстанавіць цяпер, калі значная частка Узвышша ў выніку свае вывучкі ў нацыянал-дэмократаў стала ў шэрагі іхнае контр-рэволюцыйнае організацыі. Адзін з пунктаў досыць цьмянае дэклярацыі Узвышша гаворыць, што магчымасьць стварэньня беларускай мастацкай літаратуры мысьліцца імі „цераз актывізм, як тую імклівасьць, якою прасякаецца мастацкі твор у сваім ідэале і такім чынам ажыўляе патрачаную—на змаганьне з прыгнётам пануючых кляс і нацый—энэргію працоўнага люду на творчасьць вялікага і прыгожага жыцьця“.

Актывізм, агалошаны шляхам для стварэньня беларускай мастацкай літаратуры, напамінае нам тэорыю, якая ўзмоцнена прапаведвалася А. Бабарэкай на I зьезьдзе Маладняка ў 1925 г., тэорыю „вызваленьня беларускае душы“. Паводле А. Бабарэкі справа выходзіць у тым, што ў нашым рэальным сьвеце існуе як нейкая абсолютная соцыяльна-клясавая катэгорыя прыгнечаная беларуская душа, якую трэба вызваліць з-пад нейкага прыгнёту. Усё-такі ў чым-жа справа? А вось у чым. Вульгарна сказаўшы, А. Бабарэка сьпёр сваю тэорыю ў заходня-беларускага нацыянал-фашыста А. Луцкевіча, які лічыць, як і наогул уласьціва лічыць нацыянал-дэмократам, што беларускі народ—клясава аднародны, што ён ня меў і ня мае ў сабе буржуазіі, клясы прыгнятальнікаў-эксплёататараў. Такім чынам выходзіць, што пролетарская рэволюцыя прыцягнута звонку на Беларусь, чужынцамі, такім чынам усё гэта, выходзіць, штучна, і ў выніку Беларусі патрэбен нейкі самастойны шлях разьвіцьця. Адгэтуль і актывізм, зашыфраваны „вучоным“ туманам, як элемэнт чыста наступальнага парадку ў змаганьні супроць пролетарскай літаратуры. Нацыянал-дэмократычныя вушы А. Бабарэкі відны з-за ўсяго гэтага „вучонага“ туману. А што датычыць самастойна-асобнага шляху разьвіцьця Беларусі, дык вядома, што гэта за шлях. У 1921 годзе цяперашні верхавод бруднымі контррэволюцыйнымі справамі нацыянал-дэмократаў Я. Лёсік у артыкуле „Бойка пры Грунфельдзе“ пісаў, што немцы ня былі-б разьбіты палякамі, каб не дапамога смаленскіх палкоў, а смаленскія палкі гэта—палкі беларускія, вядома. Такім чынам, вось вам гістарычна абумоўлены і давědзены шлях разьвіцьця Беларусі: у саюзе з Польшчай, з сучаснай фашыстаўскай Польшчай. Вось ён які гэты самабытна-асобны шлях разьвіцьця, шлях „вызваленьня беларускае душы“. А тым часам ці варта асабліва пашырацца наконт гэтага пасьля таго, калі ў часе белапольскае окупацыі Беларусі нацыянал-дэмократы віталі ў Менску Пілсудзкага, як „гаспадара зямлі беларускай на яго роднай зямельцы“. Комэнтарыі да гэтага зусім непатрэбны, усё ясна, і „вучоны“ туман нічога вучонага не давёў.

1926 год, год абвастрэньня клясавай барацьбы, адзначаецца шэрагам вылазак нацыянал-дэмократызму. Стварыўшы свае апорныя пункты ў галіне культуры і літаратуры ў прыватнасьці, нацыянал-дэмократы організуюць „зьлёт“ на „Беларускай акадэмічнай конфэрэнцыі па рэформе правапісу“, на якім бяруць удзел побач з старымі зубрамі з Б. Н. Р. і старыя пісьменьнікі-адраджэнцы і новыя з Узвышша. На гэтым „зьлёце“ нацыянал-дэмократы даходзяць да такое ступені нагласьці і нахабства, што выносяць з залі пасяджэньня бюст Леніна.

Каб больш пасьпяхова ўплываць на літаратуру, нацыянал-дэмократы пасылаюць на сталую работу ў першае літаратурнае аб'яднаньне сваіх выпрабаваных прадстаўнікоў. Даходзіць нават да таго, што гэтыя прадстаўнікі пралазяць у кіруючыя органы аб'яднаньня. Пад моцным напорам дробна-буржуазных, кулацкіх элемэнтаў, ідэолёгічна афармляемых у нацыянал-дэмократычную плынь, большасьць кіраўніцтва Маладняка праз год пасьля „адколу“ групы Узвышша, г. зн. у 1927 г., паказвае першыя наяўныя сымптомы хваробы. Вядучы барацьбу з Узвышшам нібыта за масавасьць організацыі, яно на справе праводзіць чыстку аб'яднаньня, якая прыводзіць па сваіх выніках да катастрофічнага становішча. З 500 асоб у аб'яднаньні застаецца толькі каля 70 і характэрна, што сярод гэтых апошніх якраз пазаставаліся элемэнты наяўна чужыя і нават варожыя па сваёй нацыянал-дэмократычнай тэндэнцыі (Касьпяровіч, Купцэвіч, Жылка, Гаўрук і некаторыя іншыя). Чым далей у лес, дык болей дроў. Парываючы з масавым літаратурным рухам і па інэрцыі будучы ня ў змозе спыніцца пасьля штуршка, зробленага нацыянал-дэмократызмам, большасьць кіраўніцтва Маладняка вызначае „самаліквідацыю“ аб'яднаньня, якое нібыта „перарасло свае формы“, і падрыхтоўвае ўтварэньне Полымя, супольна са старымі пісьменьнікамі-адраджэнцамі, у пераважнай большасьці сваёй, якія пранесьлі нацыянал-дэмократычны цяжар праз 10 год Кастрычніка.

Здавалася-б, што няўхільна пачынаюць ажыцьцяўляцца ў літаратуры намеры нацыянал-дэмократаў аб заваёве літаратурных організацый. Але пры гэтым нацыянал-дэмократы забыліся да ап'яненьня, да самазабыцьця, яны выпусьцілі з галавы нешта, што і вырашыла ўрэшце лёс Маладняка. У шэрагах аб'яднаньня літаратурна вырасьлі новыя кадры і гэтыя новыя кадры на ўвесь голас заявілі пра сваё існаваньне. Група комуністых і комсамольцаў пры падтрыманьні найбольш блізкіх беспартыйных стварае ініцыятыўную групу, бярэ на сябе кіраўніцтва аб'яднаньнем, выключае з організацыі ліквідатарскую групу і завязвае сувязь з ВАПП'ам. Вось якія здарэньні разгортваюцца ў беларускай літаратуры да пачатку 1928 году.

Тым часам чыннасьць групы Узвышша з усёю наяўнасьцю паказала, што нацыянал-дэмократызм зьвіў сабе моцнае гняздо ў гэтым аб'яднаньні. Вонкавая шыльда „Узвышша—пролетарская організацыя“—выяўляе ўсю сваю хлусьлівасьць. Лідэры яе пачынаюць усё часьцей ды часьцей „пасьлізвацца“, даходзячы да такіх, напрыклад, развражаньняў, што „Узвышша творыць пад сьцягам творчасьці літаратуры нацыянальнай у форме і пролетарскай у сваёй імкненнасьці“, што „Узвышша і ня думала парываць з грамадзкай працай, спадзяючыся праводзіць яе і надалей пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі ў магчымым для сябе кірунку і формах“ (Ул. Дубоўка, „Гудок“, № 114 за 1927). Дэкляраваны групай актывізм, як элемэнт нацыянал-дэмократычнай наступальнай накіраванасьці, штурхае пісьмень-

літаратуры, за кардонам загаласілі нацыянал-фашысты тыпу Станкевічаў, Луцкевічаў, Астроўскіх і К-о: у Савецкай Беларусі, моў, пачалося ганеньне на пісьменьнікаў з Узвышша і Полымя, творы якіх найбольш прасякнуты беларускім духам і „гончыя з БелАПП па знаку, паданаму ў „Бальшавіку Беларусі" эгэрмэйстэрам тав. Конокоціным, травяць арганізацыі Узвышша і Полымя. „Бязумоўна, гаспадар ведае ў чым справа, бо страдаюць яго інтарэсы. Першыя ўдары па нацыянал-дэмократызму былі прыняты нацыянал-фашызмам на свой рахунак і не дарэмна. З разгромам нацыянал-дэмократызму ў Савецкай Беларусі траціцца сапраўдны і надзейны саюзьнік у будучай інтэрвэнцыі. З узмацненьнем і шырокім разгортваньнем колектывізацыі, з ліквідацыяй кулацтва як клясы на грунце суцэльнай колектывізацыі губляецца надзея на моцную апору нацыянал-дэмократызму і жывую сілу імпэрыялістычных інтэрвэнтаў у тылу Савецкай Беларусі.

Цяпер становіцца асабліва зразумелым вялікае ажыўленьне і актыўнасьць нацыянал-дэмократаў у БССР. У пэрыод найбольшага згуртаваньня сіл пролетарыяту, батрацтва і беднаты з незаможным серадняцтвам для барацьбы з кулаком, у пэрыод найбольшага абвастрэньня клясавае барацьбы ў вёсцы нацыянал-дэмократы ў горадзе выступілі разгорнутым фронтам, але яшчэ пакуль што за згорнутымі штандарамі. Штандары трымаліся для больш урачыстага выпадку. Але ўрачысты выпадак ня прышоў, і нацыянал-дэмократычныя штандары разам з іншым падобным сьмяцьцём згараць у топцы лёкомотыву гісторыі, гісторыі, якая ствараецца рукамі пролетарыяту. З раскрыцьцём АДПУ контррэволюцыйнай арганізацыі беларускіх нацыянал-дэмократаў, у якую ўвайшоў вялікі процант асабовага складу Узвышша і Полымя, значна падарваны сілы нацыянал-дэмократызму і разьбіты пляны імпэрыялістычных інтэрвэнтаў. Але на гэтым ня трэба супакойвацца.

Вораг разьбіты, але яго яшчэ трэба і дабіць. Гэта справа ня тыдняў і месяцаў, гэта справа можа больш доўгага тэрміну. Нацыянал-дэмократызм, хоць разьбіты і асаблы, у шмат чым з выбітым з-пад ног грунтам, яшчэ досыць доўгі час будзе прымаць розную афарбоўку, зяменьваць свае становішча, знаходзіць вузкія месцы ў нашым соцыялістычным будаўніцтве, у будаўніцтве пролетарскай культуры і літаратуры.

Беларускай асоцыяцыі пролетарскіх пісьменьнікаў, асабліва-ж яе кіраўніцтву і актыву, трэба трымаць вуха чулым. Штодзенная, бязьлітасная няпрымірэная барацьба з нацыянал-дэмократызмам, барацьба за ідэолёгічную чыстату сваіх шэрагаў—вось неабходнейшыя ўмовы для заваяваньня гэгэмоніі пролетарскай літаратуры ў БССР.

# ПЕРАВЫБАРЫ САВЕТАЎ

20 лютага 1931 г. у Менску мае сабрацца X Усебеларускі Зьезд Саветаў. У працягу студзеня і лютага ўся Савецкая Беларусь была на перавыбарах.



Сотні тысяч рабочых, колгасьнікаў, служачых, працоўны гораду і вёскі дэтальна абмяркоўвалі дзейнасьць саветаў. Гэтыя сходы паказалі значна ўзросшую політычную актыўнасьць працоўных мас.

Шырокія масы працоўных навучыліся распазнаваць у нацыянал-дэмократае, нацыянал-опортуністе, правым ухілісьце, левым загібшчыке—кулацкага агента,—ворага соцыялістычнага будаўніцтва.

Да справы кіраўніцтва пролетарскай дзяржавай, да актыўнага ўдзелу ў соцыялістычным будаўніцтве ўзьнімаюцца новыя пласты працоўных. Ленінская Комуністычная партыя глыбока ўкараніла ў масы асноўны завет Леніна, што справа будаўніцтва соцыялізму зьяўляецца справай мільёнаў, мільёнаў рабочых і працоўных сялян.

На перавыбарах рабочыя і працоўныя сяляне паслалі ў саветы лепшых ударнікаў соцыялістычнага будаўніцтва, лепшых організатараў і энтузіястых соцыялістычнага спаборніцтва на фронце індустрыялізацыі і колектывізацыі.

Выбары паказалі баявую гатоўнасьць пролетарыяту і непахісную яго рашучасьць змагацца за поўную перамогу соцыялізму, за бальшавіцкае выкананьне пляну трэцяга рашаючага году пяцігодкі, за выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады.

На парозе новых вялікіх задач масы яшчэ раз прагаласавалі за бальшавіцкія тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва.

Уноў абраныя саветы ўцягнуць у справу будаўніцтва соцыялізму, новых фабрык і колгасаў незьлічоныя мільёны працоўных, сапраўды шырокія масы. Падцягваюцца новыя рэзэрвы, багатыя невычарпальнай творчай актыўнасьцю і вытворчага энтузіязму.

Новыя саветы—органы пролетарской дыктатуры пад кіраўніцтвам компартыі станучь на чале гэтае масы, каб давесьці справу соцыялістычнага будаўніцтва да пераможнага канца.

# За 175.000.000 руб.



...нудительного труда я был не оставлен
в работе на советских лесозаготовках, но еще раз повторяю
С этим я не встречался

Против публикации интервью не возражаю

Ал. Валон

17/I 1931 г.

Собственноручную подпись М-ра Валона
с приложением печати
Завкома Ижемских трактор...





Памылкова думаць, што золата здабываецца толькі недзе далёка-далёка, што іншага спосабу назбіраць запасы звонкай валюты, гэтак патрэбнай для імпортных і іншых мэт, у нас няма. Дарма! Гэта зусім правільна. Гэта можа разважаць толькі той, хто ні разу за ўсё жыцьцё ня чуў аб багацьці ечных прыродных багацьцях бязьмежнай савецкай краіны, аб гатовых мільёнах—сотнях мільёнаў, якія цярпліва чакаюць ня толькі ўліку, але і рацыянальнага, сапраўднага гаспадарчага выкарыстаньня.

У трэцім рашаючым годзе пяцігодкі нашы беларускія лясы павінны даць дзяржаве 175.000.000 рублёў для таго, каб пасьпяхова выканаць плян соцыялістычнага будаўніцтва. Гэтае цьвёрдае заданьне павінна быць абавязкова выканана.

У барацьбу за 175.000.000 рублёў павінны быць уцягнуты шырачэнныя масы працоўных сялян і колгасьнікаў. Разгорнутым наступленьнем на кулака, нанясеньнем руйнуючага ўдару правым ухілістам, опуртуністам і „лявацкім“ загібам у пытаньні лесазагатовак мы даб'емся баявых тэмпаў у барацьбе за залатыя мільёны, патрэбныя нам для абсталяваньня соцыялістычных індустрыяльных волатаў.

Махавік пяцігодкі няўхільна рухаецца ўперад. У глыбокіх беларускіх лясох павінен адчувацца магутны тэмп індустрыялізацыі. Кожная арцель лесарубаў, кожная арцель па вывазцы лесу павінна ведаць, што кожны нявыкананы процант цьвёрдага заданьня азначае зрыў будаўніцтва соцыялістычнага прадпрыемства, зрыў экспортнага пляну. Вось чаму—ніводнай хвіліны прастою. Ніводнае хвіліны марнаваньня.

Усе сілы раённых партыйных, савецкіх і профэсыянальных організацый трэба кінуць у лес. Усе сілы на вывазку лесу! Ніводнае вырубленае бярвеньне не павінна застацца ў лесе. Трэба ўгамаваць кулака. Кулак павінен цалкам выконваць цьвёрдыя заданьні.

Кулак... лесазаг... ялістыч... раёне м... на тав... янэрам,... Пад уп... сяляне... шкадую... рваць п... трэцяга... тамі ку... за кро... колекты...

Руйну... ліквідуе... дныя мэ... шэйшых... энтузіяз... ўласным...

Няха... сваёй п... працы... энтузіяз... совай п... вае соц...

Але д... Ня вер... шых С... яны ў... факсымі... нэра, с... Валона,... на леса... супроць...

Плётк... мусіць... нага нас...

Не па... на леса... усе сіль... па выва... ўсе аста...

Вяліку... частка... гады пр... жыць ва...

Парты... чага фр...

Кулак азьвярэў і часам вядзе адкрытую агітацыю за зрыў лесазагатовак, каб гэтым самым сарваць забесьпячэньне соцыялістычнага будаўніцтва патрэбнымі лесаматэрыяламі. У Грэскім раёне мы мелі выпадак, калі кулак Пісарчык кінуўся з сякерай на тав. Русецкага, які прышоў да яго ў хату разам з міліцыянэрам, каб арыштаваць яго за агітацыю супроць лесазагатовак. Пад уплывам агітацыі гэтага кулака ня выехалі ў лес ня толькі сяляне вёскі, дзе ён жыве, але таксама і суседнія вёскі. Не шкадуючы сіл, ужываючы ўсякія сродкі, кулакі імкнуцца сарваць плян лесазагатовак, каб нанесьці ўдар у самае сэрца трэцяга году пяцігодкі ў БССР. Натхнёны нацыянал-дэмакратамі кулак упарта змагаецца за кожную позыцыю, якую крок за крокам адваёўвае ад яго пераможная індустрыялізацыя і колектывізацыя.

Руйнуючы ўдар па кулацтве! Узорамі бальшавіцкае работы ліквідуем прарывы на фронце лесазагатовак. Разгорнем сапраўдныя мэтоды ўдарніцтва і соцыялістычнага спаборніцтва—вышэйшых узораў вызваленае комуністычнае працы, вышэйшага энтузіязму рабочых, колгасьнікаў і працоўных сялян, якія сваімі ўласнымі рукамі будуюць соцыялізм у сваёй савецкай дзяржаве.

Няхай задыхаецца ў плётках капіталістычны сьвет, які ў сваёй перадсьмяротнай сударзе крычыць адносна прымусовае працы на нашых лесазагатоўках. Вышэйшы соцыялістычны энтузіязм, ударніцтва і спаборніцтва яны называюць „прымусовай працай“ для таго, каб скомпромэтаваць нашае пасьпяховае соцыялістычнае будаўніцтва.

Але дарма! Працоўныя ўсяго сьвету ня вераць гэтай хлусьні. Ня верыць гэтаму і сама буржуазія. Дзесяткі сьведкаў, наведаўшых СССР, сьцьвярджаюць, што ніякае прымусовае працы яны ў нас ня бачылі. Даволі выразна сьведчыць пра гэта факсыміле—адказ (гл. малюнак) аднаго амэрыканскага інжынэра, спэцыяліста, які працуе ў нас на лесазатоўках, містэра Валона, на запытаньні корэспондэнта, як-бы ён рэагаваў, калі-б на лесазагатоўках існавала прымусовая праца і ці ня мае ён супроць агалашэньня гэтае гутаркі з ім.

Плёткамі аб „прымусовай працы“ нашыя ворагі хочуць прымусіць нас адмовіцца ад плянаў вялікіх работ, ад соцыялістычнага наступленьня па ўсім фронце.

Не падамося на правакацыю! Памножым сваё наступленьне на лесазагатоўчым фронце! Ня трацячы ніводнае хвіліны, кінем усе сілы на ліквідацыю прарываў у лесазагатоўках і асабліва па вывазцы лесу. Вопыт перадавых вучасткаў распаўсюдзім на ўсе астатнія вучасткі лесараспрацовак.

Вялікую важнасьць набывае пасылка брыгад перадавых вучасткаў на больш адсталыя вучасткі. Уключэньне ў гэтыя брыгады прадстаўнікоў лепшых сельсаветаў, колгасаў будзе служыць зарукай далейшага посьпеху на фронце лесазагатовак.

Партыя і ўрад, улічваючы выключнае значэньне лесазагатоўчага фронту, прыймаюць усе захады, каб узьняць гэтую адсталую галіну гаспадаркі на належны ўзровень. Адпушчаны вялікія сродкі, праводзіцца мэханізацыя,—у лясы будуць кінуты тысячы трактараў, узмацняюцца інжынэрна-адміністрацыйныя кадры, паляпшаюцца матэрыяльна-бытавыя ўмовы.



Вялікі паход за каштоўнай сыравінай—лесам,—разгортваецца. Лясны фронт абвешчаны ўдарным. Гэтага мала. Ён павінен зрабіцца і самым баявым.

ЦК КП(б)Б прызваў усю партыйную організацыю, усіх колгасьнікаў і працоўных сялян на штурм лесазагатовак. Выканаем гэты плян і гэтым самым пабудуем непераможны фундамант для выкананьня трэцяга рашаючага году пяцігодкі соцыялістычнага будаўніцтва ў БССР.





# ЗА АГРЭГАТ, ЗА АГРЭГАТ

Нарыс Б. Мікуліча

1

ТЫМ вечарам мы дазналіся аб прарыве ў выкананьні вытворчай програмы на мэханічным заводзе імя Сталіна, мы дазналіся, што тыя нешматлікія дні, якія засталіся да канца новага году пяцігодкі,—гарачыя, баявыя дні для заводу.

На другі дзень Бабруйская філія БелАПП перакінула ўсе свае сілы на гэты завод, і так пачаў зьдзяйсьняцца лёзунг БелАПП—„Пісьменьнік—таварыш вытворчасьці".

У чым-жа справа? Навошта патрабавалася дапамога пісьменьніцкіх сіл? Ці наогул маглі мы дапамагчы заводу?

Гэтыя пытаньні стаялі перад намі, калі мы ішлі на завод. І пэўне не адзін з нас думаў, саромячыся сказаць уголас, так: ці варта ісьці на завод, ці ня будзем назаляць тым, ці знойдзем мэтоды, яшчэ ніколі нязьведаныя дагэтуль мэтоды масавай супольнай працы рабочага і пісьменьніка?

Але першая-ж гадзіна, якую правяла філія на заводзе імя Сталіна, дала адказ:

— Мы зрабілі верна, што абралі для экзамэну філіі менавіта працу на заводзе імя Сталіна.

2

ДНІ такія непагодлівыя, восеньскія дні. Яшчэ толькі чатыры гадзіны, а ў пакоі сьцелецца шызаваты змрок—і гэты змрок мацнейшы ад папіроснага дыму.

Вакол стала тэхдырэктара сабраліся на нараду людзі. Дым і гамонка засьцілаюць пакой. Пастаронны чалавек не разьбярэцца ў струмені слоў, выказаных думак, неразьвязаных пытаньняў.

Справа-ж у наступным. Завод павінен выканаць програму: даць агрэгат і 34 лубрыкатары. Засталося некалькі дзён да трэцяга году пяцігодкі Програму выканаць трэба—

інакш завод не апраўдае сваёй назвы, свайго баявога дэвізу:

## „завод імя Сталіна“

АЛЕ, каб выканаць, патрэбна: 125 угольнікаў, 120 масьлёнак, 64 поршні, патрэбна арматура, патрэбна дужа багата. А гэтага няма ў запасе, аб гэтым не паклапаціліся загадзя, бо:—

— У нас хаос... У нас адсутнічае плянавасьць і ніхто ня ведае, ці будзе яна,—кажа з душэўнай больлю добры працаўнік тав. Малкін.

— Ёсьць людзі на заводзе, якія ня любяць Малкіна (Эт! канторская крыса!). Вось і цяпер тэхнік Грынбэрг „ахаладжвае" Малкіна:

— Гэта вам не бухгальтэрыя, тут ня дважды два—чатыры. Гэта вытворчасьць!

— О, гонар тэхніка! О, гонар камандзіра социялістычнай вытворчасьці! Я клічу цябе! Табе павінна быць сорамна за гэтыя словы, якія сказаў ты на тэхнарадзе, ад якой залежыла жыцьцё

заводу, яго гонар, гонар заводу, які хоча ісьці па шляху соцыялістычнай вытворчасьці, на якім уздымаецца галасіста запеў—

ударныя брыгады рабочых.

І вось такія людзі, людзі ў форменках, з молатам і рыдлёўкай на аколышы шапак, крышку глухаваты да гэтага запеву. Яны не схамянуліся загадзя, яны міжволі дазволілі разьвіцца прарыву да maximum'а, яны творцы арытмэтыкі хаосу.

А старшыня заўкому, маленькі рухавы чалавечак, на запытаньне, ці будзе вытворчая нарада, адказвае звычайным тонам:

— „Яны“ думаюць, здаецца, заўтра склікаць, а я ня ведаю...

А ў цэхах брыгады Акушкі, Сарокі і Вяршыніна абвясьцілі сябе ўдарнымі,

„каб скончыць шаснаццаты агрэгат“.

Прарыў на заводзе пагражае ростам: заўком ня кіруе рухам ударніцтва, не падхапляе энтузіязму рабочых.

...Меркне дзень. У маленькім пакоіку вакол стала тэхдырэктара сабраліся людзі.

Яны абмяркоўваюць. Яны разважаюць.

Яны яшчэ доўга будуць гаварыць.

3

У пажарнай паветцы прымайстравалі „рэдакцыю“. Аб гэтым гавораць абвесткі, наклееныя на сьценках, на слупох:

> Брыгада БелАПП і рэдколегія „Ваграні“ выпускае бюлетэнь. Давайце матэрыял. Яго прымаюць у пажарнай паветцы.

— Ну, і машынка, каб яе,—злуе „друкар і мэтранпаж“, пролетарскі пісьменьнік Хвядос Шынклер, аўтар славутай кніжкі „Ічэ“. Ён тужыцца выстукаць на машынцы:

## „Бюлетэнь № 1“.

І вось гэты першы бюлетэнь „Ваграні“ вышаў. Каля дашок—купкі рабочых. Гавораць. Сьмяюцца. Лаюцца. Вось удалыя радкі пра п'яніцу Гайку ўжо падхоплены моладзьдзю, ужо зрабіліся пагаворкай. Зазлаваў нечага дырэктар, ускіпеў. Так і кажуць рабочыя:

— Каровіна муха ўкусіла!

... Эх, вы „ныцікі“! Поэты і поэцікі, якія мараць аб „недасяжным“, аб мастацтве, якое „ўгледзяць вякі і народы“! Хто з вас сказаў, што ня будзе ад поэзіі трактарам нафты? Давай яго сюды! Мы давядзем на справе, што вершы дапамагаюць раб ць агрэгаты і лубрыкатары, вершы дапамагаюць організацыі вытворчых ударных брыгад.

**„Слышите, сталинцы, Муха и Гайко пропивают деньги на частых попойках“.**

**„Хулиганство в литейном цеху выбросим, как сор и труху!“**

**„Бригада Вершинина—герои-парни**
**и держат упрямо высокое знамя.**
**Товарищи, в порядке ударной кампании—**
**очередь за вами!“**

Так баявымі лёзунгамі нашы поэты накалялі атмосфэру заводу.

4

МАЙСТАР Кавальчук злуе, майстар Кавальчук хвалюецца. Вось ён стаіць у дзьвярох нашай „рэдакцыі“ і ўпарта даводзіць сваё:

— Ёсьць такая праца, якая патрабуе страт. Вось і праліваем ліцьцё...

Ніяк не пераканаем упартага гэтага майстра, што ня праца патрабуе страт, а што дрэнна робяць у ягоным цэху. Нездарма-ж да апошніх дзён ходзіць, блукае па заводзе пагаворка:

— Як точаць, так і льлюць.

Гэта пагаворка—сымболічная. Яна ўвасабляе тое, што было ўчора, што прамінула. Саматужная майстэрня, якая рабіла дробны рамонт, ператвараецца ў завод, мэханічны завод, які будуе машыны—агрэгаты і лубрыкатары.

Новы гаспадарчы год: год вялікага ўпартага крочаньня заводу імя Сталіна па шляху да соцыялістычнай вытворчасьці. Новы, мэханічны, цэх—гэта стымул росту заводу. Скора адбудуюць тут (падрыхтоўчыя работы ўжо адбываюцца) ліцейны цэх, і тады майстар Кавальчук ня будзе казаць, што брак вымагаецца „складанай працай“.

Кавальчука засьмяюць.

А цяпер ён стаіць у парозе і злуе на рэдколегію.

— Улезе чалавек, што працы ня ведае, а потым і напіша.

Справа-ж была такая. У часе ліцьця са сьценкі ваграні павыпадалі цаглінкі. Гэты факт сьведчыць, вядома, аб недаглядзе. Рабкор напісаў нам заметку, а нашы хлопцы склалі гарачую жорсткую прыпеўку. З выхадам бюлетэню прыпеўку падхапілі, а майстар зазлаваў.

Трэба заўважыць: пяць бюлетэняў „Ваграні“ ўскалыхнулі, узварушылі завод. Дрэнны заўком—заменены новым. Дырэктары атрымалі належную нагрэўку.

І ў гэтай неабходнай для заводу справе—частка ўдзелу і дапамогі пісьменьніцкай брыгады.

5

ЁН без портфэлю, у абшарпанай часам кожанцы. Ён маленькі, кажа—нібы вадой захлынаецца. Ён ловіць рукой паветра. Ён бегае ад аднаго да другога, спрачаецца, лаецца, даводзіць і пераконвае.

Яго прозьвішча Мэндэлевіч.

Па яго ініцыятыве нарада тэхнічнага пэрсоналу заводу абвясьціла сябе ўдарнай, замацавалася на заводзе да канца пяцігодкі.

У бюлетэні тады пісалі:

„Тех, у которых
связь з рабочим крепка,
У кого не гаснет
производственный накал“,

—такіх тэхпрацаўнікоў рабочы сустракае, каб разам змагацца за вытворчую програму. І—

„Слышите производства
сигнал тревожный:
не додан аггрегат!
Позор! Прорыв!..
Инженеры и техники,
ведь вы же можете
дать аггрегат,
Хаос покорив“.

Тэхпэрсонал адказвае на заклік рабочых-ударнікаў:

„Мы призываем“... и
Есть!—ответил
вчера на собрании
техперсонал:
стена между нами
и рабочими - сметена,
слышим, идем
на тревожный сигнал!“

А гадзіны імклівілі. Экспрэс супыніш, а жыцьцё ніколі. Зьмянілася аблічча заводу. Ваграні стагнала, вухкала, уздыхала цяжкасьцю нагрузкі. Іскрабляск расплаўленага чыгуну асьвятляў цэх.

Нявідочна для пастароньняга чалавека плылі асобныя дэталі ў зборку: шаснаццаты агрэгат павінен быць.

6

Я пішу аб тым, што прайшло. Плянавасьць здужала хаос, бязладзьдзе. Высока ўзьняліся сьцягі ударных брыгад.

Завод імя Сталіна апраўдаў сваё імя. Ён рушыць да новых дасягненьняў і посьпехаў.

Аб гэтым трэба пісаць багата. Аб гэтым пісаць цяжка. Аб гэтым напішуць таварышы рабочыя, якія запісаліся ў літаратурны заводзкі гурток, якія працуюць у гэтым гуртку і практыку змаганьня за прамфінплян перанясуць у справу змаганьня за пролетарскую культуру, за соцыялістычную літаратуру.

А радкі Цімоха Крысько заўсёды будуць сьведчыць аб моцы рабочага колектыву:

З бадзёраю песьняй творца і поэта
уключайся, таварыш, у спаборніцкі строй,
каб разам ісьці да жаданае мэты.
На штурм пяцігодкі, на бой, на бой!
Кожны напільнік! Кожны варштат!
За агрэгат!
За
агрэгат!

**Барыс Мікуліч.**






літую рабочую кроў і вывезьлі на тачцы. Бачачы баявы настрой рабочых, прыбыўшая паліцэйскае падмацаваньне адступіла.

Аднэй з найбольш характарных рысаў рэвалюцыйнага ўздыму зьяўляецца ўпартая барацьба мас за свабоду вулічных выступленьняў. У Сасноўцы стратэгічны плян паліцыі заключаўся ў тым, каб загнаць рабочую дэманстрацыю ў раку. Аднак ролі зьмяніліся, і рабочыя выкупалі паліцыю ў рацэ.

Бліскучым прыкладам супольнае барацьбы працуючых і беспрацоўных зьяўляецца баявое выступленьне рабочых гораду Санока ў Заходняй Украіне.

6 сакавіка 1930 г. ля будынку фабрыкі вагонаў Зелеўскага недалёка ад Санока, на якой працуе каля 1.900 рабочых, адбылася масоўка некалькі сот беспрацоўных, зволеных нядаўна з гэтае фабрыкі. Беспрацоўныя абралі на сваім сходзе дэлегацыю, якая зьвярнулася да працуючых таварышоў, каб і тыя кінулі работу ў знак солідарнасьці. Спачатку на гэты заклік адгукнуліся ня ўсе рабочыя. Ня гледзячы на гэта, арганізавалася дэманстрацыя, якая накіравалася ў горад, у гарадзкое кіраўніцтва. Дэманстранты несьлі наперадзе сьцяг компартыі, плякаты з антываеннымі лёзунгамі і з патрабаваньнямі беспрацоўных. Паліцыя загарадзіла ім дарогу, але дэманстранты прарвалі кордон. Пры гэтай сутычцы чацьвёра рабочых былі цяжка паранены. Забраўшы параненых, дэманстранты зьвярнуліся назад на фабрыку і прынесьлі іх на фабрычны двор.

Выгляд параненых таварышоў выклікаў на фабрыцы вострае абурэньне рабочых. Пачуліся пагрозы супроць фашыцкай дыктатуры. Рабочыя ўзброіліся, чым хто мог. Большасьць узяла ў рукі жалезныя пешні. Стварылася новая дэманстрацыя, якая ў ліку двух тысяч чалавек рушыла ў горад. Па дарозе дэманстрацыя тры разы ўступала ў бойку з аб'яднанымі сіламі паліцыі і вайсковай жандармэрыі. Пасьля працяжнае і ўпартае барацьбы дэманстранты заўладалі рыначнай плошчай.

Сьцягнутае войска атакавала штыкамі рэвалюцыйныя масы, але досыць было выступленьня аднэй работніцы, каб салдаты пачалі хістацца. Некаторыя з іх адмовіліся страляць. Пасьля гэтага войска было адведзена назад у казармы. Пры далейшых сутычках з паліцыяй дэманстранты адабралі ў іх некалькі стрэльбаў. Пачалася страляніна, якая спынілася толькі тады, як ужо сьцямнела. У выніку звыш сарака рабочых былі цяжка паранены, а з боку паліцыі было дзевяць параненых паліцэйскіх і адзін камісар.

Польскі пролетарыят, які мае багатыя рэвалюцыйныя традыцыі, дае належны адпор свайму клясаваму ворагу. Салдаты ўсё больш часта дапамагаюць рэвалюцыйным рабочым, і гэта зьяўляецца лепшым довадам таго, што пролетарыят Польшчы бязупынна рыхтуецца да сваёй социялістычнай рэвалюцыі.

Фашыцкая ўлада Пілсудзкага вядзе краіну да пагібелі. Нават буржуазныя экономісты вымушаны пісаць, што польская экономіка ня мае ніякіх пэрспэктыў на аднаўленьне У рамках капіталістычнага сьвету Польшча асуджана на зруйнаваньне і экономічны заняпад, бо сусьветны імпэрыялізм вызначыў Польшчы толькі ролю жандара супроць Саюзу Савецкіх Рэспублік. Уласную сваю прамысловасьць і экономіку фашыцкая Польшча ніколі не адбудуе, бо гэта не ўваходзіць у пляны фактычных гаспадароў і кіраўнікоў Польшчы—сусьветных імпэрыялістаў.

Указваючы працоўным на прыклад Кастрычніцкай рэволюцыі, супроцьстаўляючы вынікам заняпаду фашыцкае Польшчы дасягненьні пролетарскае дыктатуры ў СССР, Компартыя Польшчы разгортвае перад імі програму пераможнага социялістычнага наступленьня. Сотні тысяч рабочых Польшчы, сотні тысяч працоўных сялян ня хочуць жывымі лезьці ў труну, ня хочуць паміраць з голаду. Перадавыя авангарды польскага пролетарыяту пад кіраўніцтвам КПП ужо ўступілі ў барацьбу з крывавым фашызмам.

Покліч—хлеба і работы!—гэта асноўны лёзунг, вакол якога разгортваецца барацьба. Крывавы фашызм ня можа даць работы, крывавы фашызм ня можа даць хлеба.

Рабочыя і сяляне Польшчы возьмуць хлеб і работу з рукі сваёй рабоча-сялянскай улады, за якую яны змагаюцца і ў змаганьні за якую яны пераможуць.

**Б. Клімчук.**

СТАНІСЛАЎ ІВА

НАРЫС




# ШЛЯХ ПЕРАМОГ

## 1. Так было

— Ганьбавалі...
— Зьдзекваліся...
— Смакталі кроў...
— Батракі працавалі дзень і ноч... Удзень на гаспадарцы лютага абшарніка—Ансельмана, а ўначы на хутары панскага эканома—Махатага...

Алесь Брэкман, былы панскі батрак, змоўк, уздыхнуў, дастаў з кішэні капшук з тытунём, скруціў, запаліў папяросу, зацягнуўся і апавядаў далей.

— Я сам латыш. Нарадзіўся я ў батрацкай сям'і, якая была запрадана на ўсё жыцьцё абшарніку. Да дванаццаці год я рос у жабрацкай, батрацкай сям'і, у якой было сем душ апрача мяне. Я рос і ня ведаў, што такое школа. Бацька часам гаварыў, што вучыцца могуць толькі багатыя, што вучонымі могуць быць толькі паны. Да дванаццаці год я дапамагаў бацьку ў непасільна-цяжкай працы і за гэта не атрымліваў ад пана ні капейкі. З дванаццаці год мяне пан прызначае сьвінапасам, потым даручае пасьвіць кароў і праз некаторы час пераводзіць сталым рабочым.

— Абшарнік Ансельман ашукаў майго бацьку. Ён вывез яго з Курляндыі, абяцаючы, што тут добра жыць, дасьць зямлі, грошай, кватэру, харчаваньне, што тут будзе добрае шчасьлівае жыцьцё. Бацька паверыў і прыехаў. Але замест шчасьлівага жыцьця, зямлі, добрай кватэры, харчаваньня абшарнік даў яму тое, што і дзесяткам астатніх батракоў. А даў ён:
— разбураную хібарку,
— два гектары зямлі,
— у грошах і прадуктах адмовіў.
— За гэтую „панскую ласку" батрак абавязан быў:
— чатыры дні працаваць пану.
— два дні сабе,
— за кожны 12-гадзінны рабочы дзень зімой пан плаціў—15 кап.
— за кожны рабочы дзень у 15—16 гадзін улетку плаціў 25 кап.
— Голад...
— Холад...
— Жабрацтва...
— Ніхто ня цікавіўся, не звярачаў увагі, як жыве запрадены нявольнік-батрак. Нас, батракоў, ня лічылі за людзей. Мы ня мелі права вучыцца. Мы гінулі ў спрадвечнай цемры... Над нашымі сьпінамі сьвістаў бізун панскага цівуна-эканома Махатага...
— Я ўспамінаю, як мяне, пятнаццацігадовага хлапчука, зьбіваў панскі цівун Махаты бізуном з валавяным наканечнікам Я ўспамінаю, як за сутычку з эканомам пан звольніў мяне з работы, і я доўгі час заставаўся галодны—без капейкі грошай. Я яшчэ не забыў і пра тое, як Ансельман з дубцом выганяў на працу, біў маю хворую жонку...
— Мы павінны былі маўчаць. Мы павінны былі зносіць усё... І мы, батракі, зносілі, цярпелі, маўчалі...
— Мора сьлёз...
— Няшчадная эксплёатацыя...
— Батракоў кружыў у цянётах жабрацтва вір жыцьцёвай гаротнасьці...
— Мы зносілі зьнявагу, нас ганьбавалі і мы маўчалі. Мы прымушаны былі царскімі законамі маўчаць... Тыя батракі, якія ўзьнімалі свой голас протэсту супроць гвалту абшарнікаў, выганяліся з маёнтку і прымушаны былі часам за год аб'ехаць дзесятак маёнткаў.
— Мы маўчалі...


ТРАКТАРЫСТЫ-ЎДАРНІКІ КОМУНЫ „ПРАЦА" АГЛЯДАЮЦЬ ТРАКТАР.



ІНТЭРНАЦЫЯНАЛЬНАЯ ГРУПА КОМУНАРАЎ З КОМУНЫ „ПРАЦА“.

Алесь сказаў апошнія словы і раптам яго вочы загарэліся зеленаватымі агеньчыкамі.

Ён расказваў далей так:

— Раптам белапольскія банды наляцелі на вольную краіну саветаў. Разам з белапалякамі прыехаў і пан Ансельман. Былы абшарнік за тое, што батракі захапілі маёнтак, патрабаваў:

— зьвярнуць маемасьць,

— і за гэта адпрацоўваць 15 дзён у месяц паншчыны.

— Нядоўга панавала белапольская зграя. Чырвоная армія ачысьціла Савецкую Беларусь ад белапалякаў, і праз некаторы час у былым панскім маёнтку кіпела плённае адданае калектыўнае жыцьцё!

— У 1922 годзе ў маёнтку арганізавана комуна!

— Мы пачалі будаваць соцыялістычнае жыцьцё!

— Мы пашлі па ленінскім шляху—да соцыялізму!

— Мы, былыя батракі абшарніка: беларусы, латышы, палякі, украінцы, чэхі, яўрэі — дзякуючы правільнаму вырашэньню Ленінскай нацыянальнай політыкі згуртаваліся ўсе ў адну моцную неперможную сям'ю комунараў.

— Сёньня ў нашай комуне:

— 34 сям'і;

— 17 лепшых комунараў уступілі ў рады Ленінскай партыі;

— уся праца праводзіцца мэтадамі соцспаборніцтва і ўдарніцтва;

— добрыя, утульныя кватэры па 2-3 пакоі на сям'ю;

— 550 га зямлі, 300 сьвіней, 200 кароў;

— 63 тысячы валавога прыбытку;

— агульная сталовая, дзіцячыя ясьлі, дзетпляцоўка;

— пасека з 337 вульляў, якая дала 1500 руб. чыстага прыбытку;

— сад 12 га;

— У 1930 г. за ўдарную працу, за бальшавіцкае правядзеньне веснавой сяўбы і ўборачнай кампаніі атрымалі дарагую ўзнагароду—**чырвоны сьцяг ад імя ЦВК БССР і трактар.**

— Вось з якімі дасягненьнямі мы ўступілі ў трэці рашаючы год пяцігодкі.

— Я запэўняю ад імя ўсіх комунараў, што ніхто з нас загартаваных комунараў, ня зыйдзе са шляху, па якім мы ідзем да соцыялізму, пад кіраўніцтвам ленінскай партыі.

— Мы будзем яшчэ больш жорстка змагацца,—так закончыў Алесь сваё апавяданьне,—з клясавымі ворагамі, якія хочуць падарваць соцыялістычнае будаўніцтва ў краіне Саветаў!

## 2. Так ёсьць

— Ленін!

— Чырвоны Кастрычнік!..

— Саветы!..

— Гэтыя вялікія, дарагія словы спачатку былі незразумелы нам, спрадвечным батракам. Паны насьпех зьбіралі сваё багацьце і ўцякалі як спуджаны гурт авец. Чырвоны Кастрычнік зьмятаў клясу эксплёататараў.

— Хутка ажыў маёнтак. Батракі сталі вольнымі і ўсьвядомілі, што значыць:

— Чырвоны Кастрычнік!...

— Улада Савецкая!...

— Правадыр сусьветнага пролетарыяту Ўладзімер Ільліч!..

— Для нас, цёмных, няпісьменных былых батракоў розных нацыянальнасьцяй: беларусаў, чэхаў, украінцаў, латышоў, палякаў—гэтыя словы зрабіліся блізкімі, дарагімі, зразумелымі. Мы, былыя прыгнечаныя, атрымалі поўнае права на жыцьцё.

— Воля!..

— Краіна Савецкая!..

— Радасьць і плённая праца!..

Каралінскі раён,
комуна „Праца“.

# ВЕРШЫ ПЯТРУСЯ БРОЎКІ

## КАВАЛЬ

Мне сонца сёньня—домна,
а цэх—мая радзіма.
Бі молат многатонны!
Бі молат без спачыну!

Кавадла будзь гартаваным,
круціся сталь вужакаю.
Да выхаду гатовы мы
з касілкамі, жняяркамі.

Жалеза хай іскрыцца
і б'е нястомным жарам.
Я тэмпы павялічыў
на тысячу ўдараў.

Байцамі мы калёнамі,
рабіць прышлі ня жартамі.
Хай дым і гар заслонаю...
Працуйце вэнтылятары!

Даўно знаёмы з потам
я цяжкай працы рад.
Зрабіць ў мяне клапоты:
ударніцкім варштат.

Кавадла будзь гартаваным,
круціся сталь вужакаю.
Да выхаду гатовы мы
з касілкамі, жняяркамі.

Мы дзень у дыме чорным
бярэм свае загары.
Запішам свае горны
ў сьпісы комунараў

Байцамі мы калёнамі
рабіць прышлі ня жартамі.
Хай дым і гар заслонаю...
Працуйце вэнтылятары!

Прагулы ты усе кінь!
Цяпер бракуе часу.
Штурмуйце ваганеткі
вы будучыню нашу.

Кавадла будзь гартаваным,
круціся сталь вужакаю.
Да выхаду гатовы мы
з касілкамі, жняяркамі.

Завод „Комунар“, 1930 г.

## ШУМІ, ВАГРАНКА!

Шумі, ваграка нашая,
ліцейнымі ты маршамі

Хай кокс гарыць,
чыгун плыве...
Сьмялей парыў,
удар сьмялей!

Ўсе сілы на завод кінь
за нашу пяцігодку

Хай кокс гарыць,
чыгун плыве...
Сьмялей парыў,
удар сьмялей!

Хто зьмерыць сілу волата;—
машына наша золата.

Хай кокс гарыць,
чыгун плыве...
сьмялей парыў,
удар сьмялей!

Ты, бальшавіцкім сынам
будзь кожную хвіліну.

Хай кокс гарыць,
чыгун плыве...
Сьмялей парыў,
удар сьмялей!

*Напісана разам з т. М. Кацам,
рабочым заводу „Комунар“.*

Менск, 1930 г.

Пятрусь Броўка

# Апошнія падзеі

## „Сапраўдны леў паядае сапраўднага алавека“.

У адным з самых вялікіх кіно-тэатраў Бэрліну, у самым цэнтры нямецкае сталіцы, на Курфюстэндаме, з вялікім посьпехам ставіцца гукавы фільм, які зьяўляецца лепшым узорам агрубеньня норавў і зьдзічэньня сучаснага буржуазнага грамадзтва. Гэта—„навуковы“ гаворачы фільм пад назвай „Афрыка гаворыць“.

Сюжэт фільму—паступовыя этапы нападу льва на чалавека, які памірае пад жудаснымі лапамі драпежніка. У пагоне па сэнсацыю кіноопэратары ахвяравалі „толькі“ тубыльца—нэгра. Ужо ў самым пачатку фільму кіраўнік экспэдыцыі Гэфляр тлумачыць, што сваю армію з 200 чорных насільшчыкаў ён склаў з людзей, якія належаць да розных, паміж сабой варожых, нэгрыцянскіх пляменьняў для таго, каб такім чынам ухіліцца забастовак і, мажліва, бунту. У гэтым фільме адміністратар гаворыць з нэграмі толькі гэтак: „марш на работу, гультаі!“ Свайго „вышэйшага эфэкту“ фільм дасягае ў той момант, калі няўзброенаму маладому нэгру даецца загад прынесьці зброю з аднэй з фурманак. Насільшчык адразу бяжыць выканаць загад, і трапляе на льва, які знарок у гэты момант быў выпушчаны на нэгра.

Глядач пераживае моманты вышэйшае асалоды, нэгр у паніцы ад раптоўнага спатканьня кідаецца наўцёкі, але леў хутка яго нагаяне і пры жудасных крыках чалавека ўтыкае ў яго цела свае кіпцюры. У баку сядзяць кіноопэратары, якія з надзвычайным халаднакроўем, ня ўпускаючы аніводнага цікавага моманту, здымаюць усю гэтую жудасную сцэну, зантотоўваючы ня толькі відовішча, але і крыкі паміраючага чалавека і роў льва.

Паўнютказя заля буржуазнае публікі задаволена. Урэшце яна атрымала сапраўдны тавар за свае грошы: сапраўдны леў паядае сапраўднага чалавека.

Характарна, што большасьць нямецкае прэсы спачуваюча адгукаецца на гэты фільм, які зьяўляецца ганьбай нават для буржуазнае культуры.

## Роман лідэраў ППС с дэфэнзывай.

ППС даўно ўжо зьяўляецца партыяй польскае дэфэнзывы. Міліцыя ППС акуратна атрымлівае зброю з паліцыі і разам з ёю разганяе рабочыя дэмонстрацыі, страляе ў комуністаў.

Зараз як паліцыя выявіла, што ППС ніякім уплывам у масах не карыстаецца, яна рашыла пазбавіцца ад свайго хаўрусьніка, абвінавачваючы яго ў арганізацыі замаху на Пілсудзкага.

І вось тут надзвычайна яскрава выявілася ўся сыстэма провокацыі, якая заўладала дзяржаўным жыцьцём Польшчы. У паліцыю зьяўляецца член варшаўскага камітэту ППС Ягадзінскі і даносіць, што ён галоўны арганізатар замаху на Пілсудзкага. Далей высьвятляецца, што ў склад групы, якая рыхтавала замах, уваходзілі агенты паліцыі,—таксама члены ППС. Напалоханы верасьнёўскай крывавай дэманстрацыяй ЦК ППС зьвяртаецца да начальніка палітычнай паліцыі (дэфэнзывы) Кавецкага і разам з ім распрацоўвае плян прыдушэньня рэволюцыйных настрояў у масах рабочых Польшчы.

Што для нас самае характарнае ў гэтым процэсе? Гэта—стан партыі польскіх соцыялістаў. ППС—партыя паліцэйскіх, дэфэнзыўшчыкаў, провокатараў, да лакопаў рэволюцыі.



На процэсе меў месца харакгарны дыялёг між Кавецкім і прокурорам. Кавецкі характарызаваў ППС як партыю, якая ня імкнецца да зьмены дзяржаўнага ладу. Адзін буйны яе недахват, па думцы палітычнай паліцыі.—гэта занадта гострая фразэолёгія, якой ППС часам карыстаецца ў апошнія гады.

— Значыцца, ППС нельга параўноўваць з комуністамі?—пытаецца прокурор.

— Ах, што вы, што вы, не, не! Комуністы гэта зусім іншыя,—адказвае шэф палітычнае паліцыі.—ЦК ППС заўсёды імкнуўся прыдушыць рэволюцыйныя настроі ў масах польскага пролетарыяту.

Польскія соцыялісты добрасумленна заслужылі гэты атэстат ад шэфа дэфэнзывы. Відаць, што ППС дайшла ўжо да гэткага стану, што паміж соцыял-фашызмам і чыстым фашызмам ніякае розьніцы ўжо няма.

## Золата з волава і... жульніцтва.

Яму 46 год, ён быў унтэр-афіцэрам, а потым ляборантам на якімсьці хэмічным прадпрыемстве. Затым ён пачаў задумвацца над пераўтварэньнем адных рэчаў у другія. Паступова ён задумваўся над тым, як-бы з волава зрабіць золата. Прозьвішча гэтага золатаробцы—Таўзэнд (панямецку гэта значыць—тысяча). Зараз Таўзэнд сядзіць на лаўцы падсудных і нямецкая прэса вызначае гэтаму процэсу, які адбываецца ў Мюнхэне, цэлыя газэтныя старонкі.

Сутнасьць гэтага цікавага процэсу ня толькі ў звычайным жульніцтве і ашуканстве, з якога Таўзэнду сапраўды ўдавалася рабіць золата, хоць, праўда, падрабязнасьці гэтага ашуканства таксама даволі цікавыя. Таўзэнд арганізаваў акцыянэрнае таварыства па здабычы сынтэтычнага (штучнага) золата „Таварыства 164“. Чыноўнікі, фабрыканты, машэньнікі, генэралы ўносілі туды свае паі. Хто ўносіў сто тысяч марак, хто 200 тысяч, хто 50 тысяч. Таўзэнд самаўладна распараджаўся гэтымі грашыма. Ён купляў сабе дамы ў розных гарадох Нямеччыны, ён купляў маёнткі ў розных краінах Эўропы, гаворачы, што гэта патрэбна яму для досьледаў.



Развалілася „Таварыства 164“; было організована новае таварыства, і зноў пацякло золата ў кішэні Таўзэнда сапраўднае, стопроцантнае, натуральнае золата. А як-жа з „штучным“ золатам, якім Таўзэнд абяцаў ашчасьлівіць пераможаную і жабрацкую Нямеччыну? Людзі, якія давалі яму сотні тысяч марак, сапраўды былі зацікаўлены ў штучным золаце. І вось ён робіць свае досьледы „ўдалыя і няўдалыя“. Калі вучоныя хацелі больш дэтальна пацікавіцца яго досьледамі, ён высоўваў ім гэткія ўмовы, што яны адмаўляліся прысутнічаць у часе досьледу. Урэшце, час-ад-часу, ён жульніцкім мэтодам даставаў золата з волава, якое... ён раней туды ўкладаў.

Справа Таўзэнда—гэта ня толькі крымінальная справа, гэта палітычная справа. Вакол Таўзэнда групаваліся фашысты рэакцыйныя прамыслоўцы, фашыцкія лідэры, і нават сам Людэндорф, які быў на чале „Таварыства 164“. Людэндорф хацеў выкарыстаць золатаробцу, каб фінансаваць фашызм і контррэволюцыю. Людэндорф быў шчыльна зьвязаны з Таўзэндам і нават спрабаваў пазнаёміць яго з Гіндэнбургам. У справе Таўзэнда як у кроплі вады, адбіваецца ідэёвы, палітычны і маральны ўзровень фашыцкага лягеру Нямеччыны, малюнак ідыётызму, які гэтак раскладае нямецкую буржуазію.

Выданьне Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва. Адказны рэдактар МІХАСЬ ЧАРОТ.

## „САЮЗКІНО“ ТРЭСТБЕЛДЗЯРЖКІНО

# ЧАРГОВЫЯ ВЫПУСКІ

| МАСТАЦКІЯ ФІЛЬМЫ | ПОЛІТАСЬВЕТНЫЯ ФІЛЬМЫ |
|---|---|
| **РУБІКОН**<br>Сцэнары А. МЕНСКАГА<br>Рэжысэр В. ВАЙНШТОК<br>Опэратар Арк. КАЛЬЦАТЫ | **З НЕТРАЎ БАЛОТ**<br>(ПЕРШАЯ ЎСЕБЕЛАРУСКАЯ ВЫСТАЎКА СЕЛЬСКАЕ ГАСПАДАРКІ І ПРАМЫСЛОВАСЬЦІ<br>Сцэнары Д. ТАЛМАЧОВА<br>Рэжысэр В. КОРШ<br>Опэратар Б. МІТЛІН |
| **САПРАЎДНАЕ ЖЫЦЬЦЁ**<br>Сцэнары Л. ЗАЛКІНД<br>Рэжысэры А. ГАЎРОНСКІ і О. УЛІЦКАЯ<br>Опэратары Д. ШЛЮГЛЕЙТ і СОКАЛАЎ | **БАБРУЙСКІ КАМБІНАТ**<br>Рэжысэр В. САЛАМОНІК<br>Опэратар Б. РАБАЎ |
| **СОНЕЧНЫ ПАХОД**<br>Сцэнары А. ВОЛЬНАГА<br>Рэжысэр В. КОРШ<br>Опэратар Д. ШЛЮГЛЕЙТ | **УЛАДА САВЕТАЎ**<br>Рэж. АНЦІ-ПАЛАЎСК В. САЛАМОНІК<br>Опэратары С. ІВАНОЎ С. ФАЙМАН |
| **КУЛЬГАВАЯ ДЗЯЎЧЫНКА**<br>Сцэнары А. КРОНА<br>Рэжысэр Ю. ВІНАКУРАЎ<br>Опэратар С. ФАЙМАН | **БУКСЫ ПЫЛАЮЦЬ**<br>Рэж. АНЦІ-ПАЛАЎСКІ<br>Опэратар С. ФАЙМАН |
| **СУД ПАВІНЕН ПРАЦЯГВАЦЦА**<br>Сцэнары А. ПАЎЛОЎСКАГА<br>Рэжысэр Е. ДЗІГАН<br>Опэратар Н. НАУМАЎ | **ТЭЛЕФОН**<br>Рэж. А ФАЙНЦЫМЕР<br>Опэратар А. РАГОЎСКІ |

# ЛЕПШАЯ РЭКЛЯМА

Ў АДЗІНЫМ У БССР—ДВОХТЫДНЁВЫМ ІЛЮСТРАВАНЫМ ЧАСОПІСУ „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“

**ДЗЕСЯТКІ ТЫСЯЧ ПРАЦОЎНЫХ ЧЫТАЮЦЬ „ЧЫРВОНУЮ БЕЛАРУСЬ“**

ОРГАНІЗАЦЫЯМ СКІДКА. ЗВАНЕЦЕ ПА ТЭЛЕФОНАМ №№ 17-12, 7-41 І ДА ВАС БУДЗЕ ВЫСЛАНЫ ПРАЦАЎНІК ДЛЯ ПРЫЁМУ АБВЕСТКІ

ЗЬМЯШЧЭНЬНЕ АБВЕСТКІ Ў „ЧЫРВОНАЙ БЕЛАРУСІ“ **ГАРАНТУЕ ПОЎНЫ ПОСЬПЕХ**

Цана 15 кап.



## АДДЗЕЛ ПАДПІСНЫХ І ПЭРЫОДЫЧНЫХ ВЫДАНЬНЯЎ

## ПАДПІШЫСЯ на 1931

на адзіны ў БССР ілюстраваны двухтыднёвы часопіс тыпу лепшых ілюстраваных часопісаў СССР

# Чырвоная Беларусь

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ МІХАСЯ ЧАРОТА

## У „Чырвонай Беларусі“ на працягу 1931 г. будуць зьмешчаны:

**Апавяданьні:** Авалава, З. Бядулі, С. Баранавых, Іл. Барашкі, Вольнага, Тараса Гушчы, Цішкі Гартнага, Платона Галавача, Даўгапольскага, Міхася Зарэцкага, Ізбаха, Васіля Кавалея, Элі Кагана, Р. Кальтофэн, М. Кальтофэн, М. Лынькова, Ліманоўскага, Р. Мурашкі, Маўра, М. Нікановіча, Нёманскага, Кузьмы Чорнага, Міхася Чарота і інш.

**Поэмы і вершы:** А. Александровіча, Астапенкі, Янкі Бобрыка, П. Броўкі, М. Багуна, Алеся Звонака, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Крапівы, Максіма Лужаніна, Валерыя Маракова, І. Плаўніка, Юлія Таўбіна, Ізі Харыка, Ул. Хадыкі, М. Хведаровіча, Міхася Чарота, С. Шушкевіча і інш.

**Нарысы і фэльетоны:** Бяліны-Падгаецкага, Бэндэ, Вольнага, Яўгена Жука, Цімоха Зарэчнага, Клімчука, Мікуліча, Васіля Сташэўскага, Шкадарэвіча, Хв. Шынклера.

**Малюнкі і фото:** Ахрэмчыка, Азгура, Бразэра, Булычова, Вал. Волкава, Давідовіча, Кіпніса, Барыса Малкіна, Мазэлева, Ул. Сеймяніакі, Салавейчыка, М. Філіповіча і цэлага шэрагу раённых корэспондэнтаў.

## УСЯГО „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“ ДАЕ Ў ГОД:

звыш 1000 фотоздымкаў, якія ілюструюць соцыялістычнае будаўніцтва СССР і БССР, а таксама замежнае жыцьцё, звыш 300 малюнкаў лепшых мастакоў, звыш 200 апавяданьняў, вершаў і нарысаў.

## „Чырвоная Беларусь“ будзе высьвятляць:

самыя шырокія праявы жыцьця, рэконструкцыйнага пэрыяду і магутнага наступу па ўсяму фронту вёскі, соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, змаганьне за пяцігодку ў чатыры гады, колектывізацыю сельскай гаспадаркі і інш.

## Умовы падпіскі:

| На 1 год | | На 6 мес. | | На 3 мес. | |
|---|---|---|---|---|---|
| р. | к. | р. | к. | р. | к. |
| 3 | — | 1 | 50 | — | 75 |

Асобны нумар каштуе **15 к.**

**Падпіска прымаецца:** Аддзелам падпісных і пэрыодычных выданьняў БДВ, Менск, Савецкая, 79; усімі кнігарнямі, кіёскамі і ўпаўнаважанымі БДВ, усімі пашт.-тэлеграфнымі канторамі і крамамі спажыв. коопэрацыі.

Тэлефон рэдакцыі 17-09

Тэлефон бюро падпіскі 17-12

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 204. Галоўлітбел № 1031.